ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 49 (2451) 7 снежня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАТАСТРОФА І ПРАБЛЕМЫ МІЖНАРОДНАЙ ПАДТРЫМКІ

**У КРАСАВІКУ БУДУЧАГА ГОДА СПАЎНЯЕЦЦА 10 ГАДОЎ, ЯК АДБЫЛАСЯ АВАРЫЯ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АТАМНАЙ СТАНЦЫІ. ГЭТАМУ СУМНАМУ ЮБІЛЕЮ ПРЫСВЕЧАНЫ АРТЫКУЛ КАНДЫДАТА ЭКАНАМІЧНЫХ НАВУК ЗОІ ПАЦЕЕВАЙ.**

Мабыць ні адзін з народаў свету не вынес за сваю гісторыю столькі пакут і выпрабаванняў, колькі іх выпала на долю народа Беларусі. Самыя страшэнныя з гэтых выпрабаванняў -- другая сусветная вайна, якая смерчам пранеслася па яе тэрыторыі, спустошваючы набытае пакаленнямі нацыянальнае багацце, а зараз -- чарнобыльская катастрофа, якая па сваіх маштабах і доўгатэрміновых выніках з'яўляецца самай буйной экалагічнай катастрофай за ўсю гісторыю чалавецтва. Глабальнасць яе заключаецца не толькі ў радыеактыўным забруджванні велізарных тэрыторый (пятая частка тэрыторыі, беззваротная страта 148 населеных пунктаў), а і ў тым, што яна практычна ахапіла ўсе сферы грамадскага жыцця, многія галіны навукі і вытворчасці, агульначалавечыя праблемы духоўнасці і маралі. Яна паставіла вялікую колькасць цяжкіх праблем экалагічнага, эканамічнага, арганізацыйнага, псіхалагічнага і прававога характару.

Надзвычайная катастрофа стала прычынай таго, што рэспубліка, якая дынамічна развівалася, пераўтварылася ў зону экалагічнага бедства з усімі негатыўнымі вынікамі для яе эканомікі. З грамадскага ўжытку выключаюцца прыродныя рэсурсы, ландшафты, помнікі гісторыі і архітэктуры. Катастрофа істотным чынам адбілася на функцыянаванні аб'ектаў вытворчага і сацыяльнага прызначэння. У выніку адсялення жыхароў з забруджаных радыенуклідамі населеных пунктаў спынілася дзейнасць шэрагу прадпрыемстваў і аб'ектаў сацыяльнай сферы. Рэспубліка церпіць вялікія страты ад зніжэння аб'ёмаў вытворчасці, няпоўнай акупнасці сродкаў, укладзеных у жыллёвае будаўніцтва, абсталяванне, меліярацыйныя сістэмы і г.д. Грунтоўныя страты ў паліве, сыравіне і матэрыялах. З сельскагаспадарчага карыстання выключаны ўрадлівыя глебы, выводзяцца са строю аб'екты рыбагаспадарчага прызначэння, скарочаны памеры карыстанняляснымі, мінеральна-сыравіннымі і іншымі рэсурсамі.

Гэта толькі непасрэдны ўрон, выкліканы аварыяй на ЧАЭС. Акрамя яго, рэспубліка нясе вялікія эканамічныя страты, звязаныя [illegible]ідацыяй вынікаў аварыі. Гэта, у пер[illegible] чаргу, расходы па перасяленню мноства людзей, перабазіраванню вытворчасці, перапрафіліраванню прадпрыемстваў прамысловасці, сельскай гаспадаркі і іншых галін. Гэта непрадказальныя і, на жаль, цяпер ужо пастаянныя ў агляднай перспектыве дадатковы[illegible]раты на забеспячэнне жыццядзейн[illegible] насельніцтва ва ўмовах радыяцыйнага забруджвання. Яны леглі значным цяжарам на і без таго падарваную эканамічным крызісам эканоміку рэспублікі.

Паводле ацэнак спецыялістаў Інстытута эканомікі АНБ, праведзеных сумесна з шэрагам навукова-даследчых устаноў Акадэміі навук Беларусі, Мінсельгаспрода, Міністэрства аховы здароўя, Мінэканомікі, Мінадукацыі і навукі і іншых устаноў, агульныя матэрыяльныя страты Беларусі ад чарнобыльскай катастрофы за 1986--2015 гады складуць 5 871, 8 мільярда рублёў (у цэнах на 1.6.1992 года), ці 235 мільярдаў долараў ЗША.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**Жывой гісторыяй свайго горада называюць жыхары Кобрына Аляксея Міхайлавіча Мартынава. Пад яго кіраўніцтвам была арганізавана да вайны і пасля адноўлена мясцовая бібліятэка. У 1946 годзе ён стаў дырэктарам Кобрынскага музея, дзе прапрацаваў трыццаць два гады. Ім створана таксама тутэйшае таварыства аховы прыроды і помнікаў.**

**І цяпер, на дзесятым дзесятку гадоў, ён цікавіцца культурным і палітычным жыццём рэспублікі, тым, што непасрэдна тычыцца роднага горада. Яго артыкулы часта можна ўбачыць у мясцовай газеце.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксе[illegible]Міхайлавіч МАРТЫНАЎ у сваёй хатняй бібліятэцы.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

ПАВОДЛЕ АРХІЎНЫХ КРЫНІЦ

# З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ У СЭРЦЫ

**(ЛІСТЫ АЛЕСЯ САЛАЎЯ ДА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ)**

На працягу многіх гадоў наша выдатная паэтэса Ларыса Геніюш падтрымлівала сувязі з беларусамі розных краін свету. Лісты ў Зэльву ішлі адусюль. Пісалі ёй з Англіі, Канады, Бельгіі, Аўстраліі, Польшчы і з іншых куткоў зямнога шара, і для кожнага карэспандэнта ў яе знаходзілася вольная хвілінка, каб напісаць ліст, паслаць паштоўку з краявідамі роднай Беларусі, выказаць словы падтрымкі суайчыннікам, якіх суровы лёс закінуў так далёка ад сваёй Бацькаўшчыны.

(Працяг на 7-й стар.).

*ПРЫСВЕЧАНА СТАРАЖЫТНАМУ ГОРАДУ*

# МАРА АБ ЗАСЛАЎІ

Прызнаюся ва ўласнай гістарычнай недасведчанасці: пра тое, што гэты невялікі цяпер горад Мінскай вобласці мае такую вялікую і сапраўды слаўную біяграфію, я даведалася толькі сёлета, у юбілейны для Заслаўя год. А сапраўды, ці многія з нас ведаюць, што ў тыя далёкія часы, калі Мінск значыўся на геаграфічных картах як маленькі пазаштатны гарадок (ці наогул не згадваўся), Заслаўе (Изяславль) быў цэнтрам удзельнага княства Полацкай зямлі?

Паводле археалагічных даследаванняў, першае паселішча племені крывічоў узнікла на тэрыторыі сучаснага Заслаўя яшчэ ў X стагоддзі. Каля 985 года непадалёку ад яго на правым беразе ракі Свіслач з'явілася ўмацаванае паселішча -- гарадзішча "Замэчак".

Як сведчыць летапіснае паданне, далейшае жыццё горада звязана з імем полацкай князёўны Рагнеды, якую князь Уладзімір Святаслававіч гвалтам узяў за жонку, забіўшы яе бацькоў і братоў. Гордая княгіня спрабавала забіць мужа, але няўдала, пасля чаго Уладзімір наважыўся пакараць яе смерцю. Старэйшы сын Уладзіміра і Рагнеды Ізяслаў уступіўся за маці і разам з ёю быў сасланы князем. Паводле падання, Уладзімір спецыяльна для апальнай жонкі з сынам пабудаваў горад і назваў яго імем Ізяслава. Прыняўшы ў Полацку хрысціянства, Рагнеда (у манастве Анастасія) несла новую для нашых продкаў веру далей, а ў Заслаўі заснавала манастыр, у якім і памерла.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



## БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА Ў ПОЛЬШЧЫ

**Вывучыць родную мову, паэзію Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, гісторыю радзімы сваіх бацькоў і дзядоў могуць дзеці польскіх беларусаў, якія займаюцца ў беларускіх гімназіях. Адна з іх, што знаходзіцца ў горадзе Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства, да нядаўняга часу размяшчалася ў старым драўляным аднапавярховым будынку.**

**Цяпер гэта сучасны будынак, узведзены на сродкі дзяржавы, дзе створаны ўсе ўмовы для вучобы.**



**НА ЗДЫМКУ:** беларуская гімназія ў Гайнаўцы.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## СЛОВА СЯБРАМ МАБ

# ПОЛЬШЧА І ЎСХОДНЯЯ СЛАВЯНШЧЫНА: КУЛЬТУРНАЕ ПАМЕЖЖА

У Ілаве, каля Ольштына, 5--7 кастрычніка 1995 года адбылася УІ Міжнародная навуковая канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел славісты амаль з усіх навуковых асяродкаў Польшчы, а таксама навукоўцы з Расіі, Беларусі, Украіны, Аўстрыі, Германіі, Венгрыі. Ілава была выбрана намі як месца правядзення канферэнцыі не толькі з-за прыгажосці горада. Проста бургамістр горада Анджэй Жылінскі прыхільна паставіўся і ўзяў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы гэтага мерапрыемства, фінансаваў яго і аказваў нам неабходную дапамогу.

На гэты раз у рэфератах многіх удзельнікаў канферэнцыі знайшлі шырокае і шматграннае адлюстраванне таксама і праблемы беларускай культуры. У праграме канферэнцыі былі выдзелены тры праблемныя блокі: польска-расійскія, польска-беларускія і польска-ўкраінскія культурныя сувязі. Пасяджэнні ішлі ў трох секцыях: літаратуразнаўча-культурнай, мовазнаўчай і тэорыі перакладу. Хацеў бы спыніцца больш падрабязна на беларускай праблематыцы.

Несумненна, шмат новых цікавых фактаў было ў дакладзе Рышарда Радзіка з Любліна "Самавызначэнне этнічнай свядомасці беларускага народа ў XIX стагоддзі". Нібы яго працягам, хаця і з выкарыстаннем зусім іншага матэрыялу, было выступленне аўтара гэтых радкоў пад назвай: "Беларускі фальклор на Віленшчыне (парафіі Шумск і Рукойні) у міжваеннае дваццацігоддзе". У тым жа коле праблем, якія датычацца фальклору, быў і даклад Ірэны Рудзевіч з Ольштына "Беларускі фальклор і літаратура на старонках часопіса "Rubon". Іншы характар мела выступленне Мечыслава Яцкевіча (Ольштын) "Беларуская школа" ў польскай рамантычнай літаратуры", якое ўнесла многа новых вызначэнняў у даследаванні беларусістаў. А вядомы паланіст -- Тадэвуш Буйніцкі (Кракаў) засяродзіўся на беларускіх матывах у паэзіі віленскага творчага аб'яднання "Жагары", аналізуючы менавіта з гэтага пункту гледжання творчасць знакамітых польскіх паэтаў. Паэт і літаратуразнаўца, якога ведаюць і на Беларусі, Ян Чыквін прысвяціў свой рэферат творчасці "зэльвенскай непаслушніцы" Ларысы Геніюш. Ванда Супа з Беластока аргументавана давяла, што творчасць Сакрата Яновіча, пісьменніка з польска-беларускага памежжа, з'яўляецца важным звяном у польска-беларускіх літаратурных сувязях.

З цікавасцю слухалі таксама госцю з Беларусі -- Галіну Тварановіч, якая выступала на тэму: "Запіскі янычара" Канстанціна Міхайловіча як факт узаемадачыненняў славянскіх літаратур (XY--XYI ст.)". У дакладзе масквічоў Л.Званаровай і А.Ананічава, прысвечаным руска-беларуска-польскім літаратурным сувязям 20-х гадоў ("Д.Мяражкоўскі і З.Гіпіус у Польшчы і Беларусі"), было многа невядомых дасюль цікавых фактаў.

Беларуская ніць праходзіла і праз амаль што ўсе выступленні мовазнаўчай секцыі. Ларыса Пісарэк з Вроцлава прыцягнула ўвагу прысутных аналізам этыкетных і моўных паводзін беларусаў і палякаў у некаторых п'есах Янкі Купалы. А наогул, творчасць Янкі Купалы -- гэта вельмі ўдзячнае поле дзейнасці для даследчыкаў польска-беларускіх культурных сувязей, што аргументавана даказала ў сваім выступленні прафесар Л.Пісарэк. Дыскусійны, але нягледзячы на гэта вельмі цікавы даклад зрабіў аўстрыйскі мовазнавец Герман Бідэр, сканцэнтраваўшыся галоўным чынам на сучасных тэндэнцыях беларускай літаратурнай мовы. Русіфікацыя, паланізацыя ці беларусізацыя? Яго выступленне вызначалася аб'ектыўнасцю, навуковай дакладнасцю і дасканалым валоданнем аналізуемага матэрыялу.

Бадай што, падобныя заўвагі можна аднесці і да рэферата Карла Гутшміта з Берліна "Першая нарматыўная беларуская граматыка Антона Луцкевіча". Выклікалі цікавасць і даклады М.Саевіча з Любліна і А.Золтана з Будапешта. Беларуская тэматыка прысутнічала і ў многіх іншых выступленнях. Як падкрэсліў прафесар Рышард Лужны, на гэты раз у аднолькавай меры праблемы рускай, беларускай і ўкраінскай культур былі ўзняты ў выступленнях удзельнікаў канферэнцыі.

Між іншым, нямалую цікавасць выклікала кніга "У коле беларускай культуры", якую можна было набыць нароўні з іншымі працамі, выдадзенымі ў апошнія два гады Інстытутам Усходняга Славяназнаўства Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне. Матэрыялы канферэнцыі будуць выдадзены ў 1996 годзе ў выдавецтве " Acta Polono-Ruthenica", якое з'явілася ў Ольштыне.

Праз два гады будзе арганізавана чарговая канферэнцыя. Яе арганізатары спадзяюцца, што ў ёй прыме ўдзел больш навукоўцаў з Беларусі, чым сёлета.

Да спаткання праз два гады!

**Валенты ПІЛАТ.**

Ольштын.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ПРА БЕЛАРУСКУЮ ШЛЯХТУ

У Польшчы выйшла кніга Яланты Сікорскай-Кулеша "Дэкласацыя дробнай шляхты ў Літве і Беларусі ў XIX стагоддзі" (Варшава, 1995). Гаворачы пра сацыяльна-эканамічнае становішча асяроддзя, з якога выйшлі многія беларускія пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, аўтар падкрэслівае, што паўсядзённае жыццё шляхты мала адрознівалася ад сялянскага. Бачачы яе рэвалюцыйнасць (яна выявілася ў час паўстанняў 1830--1831 і 1863--1864 гадоў), царызм увесь час праводзіў палітыку, каб дэкласаваць шляхту, перавесці яе ў аднадворцы.

Кніга багата ілюстравана здымкамі шляхецкіх сядзіб і іх жыхароў з Міншчыны і Навагрудчыны.

### СТАТУТ ПЕРАРЭГІСТРАВАНЫ

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь перарэгістравала Статут Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў з тымі зменамі, якія былі ў яго ўнесены ў маі бягучага года на II Кангрэсе беларусістаў. Важна падкрэсліць, што побач з калектыўным засталося і індывідуальнае сяброўства ў асацыяцыі, вакол чаго вяліся ажыўленыя спрэчкі.

Цяпер Міжнародная асацыяцыя беларусістаў гуртуе каля 650 сяброў. Больш паловы з іх жыве ў Беларусі (найбольшыя колькасна суполкі -- у Брэсцкім і Гродзенскім універсітэтах, на філфаку БДУ). Сярод зарубежных нацыянальных асацыяцый самыя шматлікія -- польская (142 сябры) і венгерская (33 сябры). Сёння беларусісты ёсць у 24 краінах.

### ПАСЯДЖЭННЕ БЮРО МАБ

На апошнім пасяджэнні бюро МАБ разгледжана пытанне аб ходзе падрыхтоўкі да выдання матэрыялаў II Міжнароднага кангрэса беларусістаў пад назвай "Беларусь паміж Усходам і Захадам". Было адзначана, што ўжо ўсе матэрыялы адрэдагаваны і набраны на камп'ютэры. Улічваючы вялікі аб'ём (54 друкаваныя аркушы), вырашана выдаць іх у дзвюх кнігах. Цяпер шукаюцца спонсары.

На тым жа пасяджэнні было вырашана, што ў Беларусі сябры МАБ замест уплаты складак падпісваюцца на газету "Голас Радзімы".

**Лена КАЗЛОВА, рэферэнт МАБ.**

## *ДА 75-х УГОДКАЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ*

# ЗМАГАРНЫЯ ДАРОГІ

Збройная зала Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі сталася месцам пачатку мерапрыемстваў, прысвечаных ушанаванню 75-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. 24 лістапада тут адбылася імпрэза "Змагарныя дарогі".

Шаснаццаці--семнаццацігадовыя грамадзяне Беларусі слухалі пра падзеі, што адбываліся ў лістападзе--снежні 1920 года ў Слуцку і яго ваколіцах -- Семежаве, Грозаве, Вызьне... Ці не ўпершыню чулі маладыя людзі імёны кіраўнікоў і ўдзельнікаў Слуцкага паўстання: Павел Жаўрыд, Уладзімір Пракулевіч, Юрка Лістапад, Антон Сокал-Кутылоўскі... Мяркую, што для многіх маладых слухачоў у гэтай музейнай зале ўпершыню даводзілася да свядомасці, што наша незалежнасць не ёсць збегам шчаслівых абставінаў, а калі такі збег і надарыўся, дык ён аплачаны ахвярнасцю тысяч змагароў, вядомых і яшчэ невядомых, нашага і мінулага стагоддзяў. Шмат пра што даведаліся маладыя людзі падчас навукова-папулярнай інфармацыйнай часткі імпрэзы, у якой узялі ўдзел вядомыя даследчыкі: кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі Ніна Стужынская, кандыдат філалогіі, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН Беларусі Іван Саверчанка. Выступіў перад слухачамі і вядомы мастак, намеснік старшыні Арганізацыйнага камітэта святкавання 75-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну Мікола Купава.

Што было далей? Далей была запаленая грамнічная свечка. Гэтая свечка ў высокім срэбным старадаўнім падсвечніку і сцяжок спрадвечна нацыянальных колераў стаялі на ўзвышшы, пакрытым срэбным абрусам. Яны надалі зале незвычайнай урачыстасці. Калі свечка была запалена, загучала мелодыя, такая шчымлівая і светлая, што перахапіла дыханне і жаль працяў сэрца. Гучала мінорная прэлюдыя Шапэна. У руках прысутных з'явіліся маленькія памінальныя цяпельчыкі, запаленыя ад той, грамнічнай свечкі. Надыходзіла хвіліна маўчання ў памяць загінуўшых за Беларусь. Патухла электрычнае святло... Прагучалі словы малітвы... Настала цішыня...

Потым прысутныя слухалі спевы бардаў. Гэта панна Марыся Аліфер з Беласточчыны, студэнтка нашага універсітэта культуры і яе сябры, студэнты Святлана Грышанава і Генадзь Кубарка разам выконвалі песні на вершы Алеся Гаруна ды іншых беларускіх паэтаў. Песні ў трохгалоссі гучалі надзвычай прыгожа.



У зале прысутнічаў Леанід Сокал-Кутылоўскі, сын аднаго з лідэраў Слуцкага паўстання -- Антона Сокал-Кутылоўскага. Леанід Антонавіч, чалавек сталага веку, які доўгі час працаваў у сферы культуры, здолеў захаваць сямейныя рэліквіі і архіў. Некаторыя з гэтых матэрыялаў экспануюцца ў музеі на выставе.

Кожны з удзельнікаў імпрэзы (і слухачы, і выступоўцы) атрымаў прыгожую паштоўку з тэкстам гімна "Магутны Божа". Спявалі гімн усе разам, многія, напэўна, упершыню. Не баюся памыліцца, калі скажу, што нашы юныя суграмадзяне пайшлі з музея багацейшымі ў свядомасці і пачуццях да Айчыны.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКУ: вечарына, прысвечаная 75-м угодкам Слуцкага паўстання, якая прайшла ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




Праход вольны. Перабіраемся на другі бок паласы і імкнём наперад. Заўважыў, што ня ўсе ідуць воўчай сьцежкай, некаторыя крочаць гурбой.

Наперадзе чую выразны пляскат па вадзе. Гэта хлопцы пераходзяць рэчку... без усялякай перасьцярогі... галопам. Я амаль па грудзі ўляцеў у ваду і па-хуткаму сьпяшаўся ўсьлед за Шчурам. Вылажу на бераг і амаль бягу за сябрам.

Дабраліся да гая. Тады збоку далятае спалоханы вокліч:

-- Кто идет?

-- Свой!

-- Кто свой? -- пытаюцца здалёк.

-- Дзядзька! -- рыкае Сум.

У некалькіх месцах гучна засьмяяліся, а зводдаль ад нас, зь цёмнага гушчару кустоў бухнуў карабінавы стрэл. З нашага боку адразу бліснула некалькі ліхтарыкаў і выразна асьвяцілі тыя кусты. Я ўбачыў постаці салдат у доўгіх шэрых шынялях. Некалькі калоў паляцела ў той бок. Нехта з хлопцаў крыкнуў:

-- Ура! На іх!

Салдаты жвава пахаваліся ў хмызы. Усё гэта адбывалася на маршы, што не спыняўся нават на хвіліну.

Калі адышліся на некалькі сотняў крокаў ад гэтага месца, ззаду загучалі стрэлы і крыкі. Не зьвяртаючы на іх увагу, мы праставалі штораз хутчэй наперад.

У двух кіламетрах ад граніцы Анёл пакрочыў па добра наезджанай дарозе. Пазьней мы зьвярнулі направа і пайшлі па вузкай сьцежцы, якая вяла празь лес.

Хлопцы размаўлялі. Раз-пораз бліскалі ліхтарыкі. Анёл ніяк не рэагаваў на гэта і вельмі хутка крочыў наперад, трымаючы ў левай руцэ ліхтарык, гатовы асьляпіць ім напатканага чалавека, у правай кол -- каб абапірацца і для абароны.

З часу ўзьнікненьня групы "дзікіх" Анёл быў дзевятым машыністам. Першым заснавальнікам і арганізатарам быў Антон Мур (заўсёды ўжываў у гаворцы слова "мур": як мур! муравана! мурам!). Гэта быў вар'ят лепшага гатунку. Працаваў ня толькі дзеля грошай, але найперш для вар'яцкіх жарцікаў. Здолеў прайсьці з групай уздоўж мяжы пару кіламетраў і павывporочваў пагранічныя слупы, пасьля разам з хлопцамі аднёс іх на другую лінію, каб укінуць у рэчку. Ягоныя прыгоды дагэтуль памятаюць хлопцы і ня раз згадваюць Антона Вар'ята. Яго забілі на савецкай заставе, куды ўшчэнт п'яны зайшоў запытацца пра дарогу і там пачаў бойку з салдатамі.

Пасьля яго заступіла шасьцёра меншых ці большых вар'ятаў. Ніводзін ня скончыў шчасьліва. Адных забілі, іншых расстралялі або саслалі.

Назаўтра раніцай пайшоў да Петруся і Юліка, аднак іх не было ў хаце. У маю адсутнасьць вырушылі ў дарогу з групай Юрліна. Пасьля нашага разрыву з Юрліным хлопцы пачалі хадзіць з гэтай групай. Такое становішча мяне задавальняе. Што будзе, тое будзе, але гэта група самая надзейная і мае добрую мяліну. А хлопцам трэба зарабіць на зіму. Юліка Вар'ята я зараз не пазнаю, пад уплывам Петруся зрабіўся сур'ёзны -- шмат чытае, вучыцца.

Увечары пайшоў да Гінты і дапазна забавіўся ў нашым салоне. Шчур таксама быў там. Даў мне 45 рублёў: 15 за ношку, 30 -- мая доля ад ношак, падабраных у лесе ад перамытнікаў, якія драпанулі. Пазьней я паціху выбраўся з салона. Пайшоў да Сашкі. Не... не да Сашкі! Гэта была толькі зачэпка... Мне ж вельмі хацелася ўбачыць Фэлю.

У Вэблінай хаце было цёмна. Абышоў яе наўкола. Заўважыў, што адно вакно сьвеціцца. Гэтае вакно выходзіла з пакоя Фэлі на агарод.

Паціху падкраўся бліжэй. Вакно было занавешана фіранкай, і зьнізу не даставала да падваконніка. Я нахіліўся і заглянуў праз шчыліну ўсярэдзіну. Амаль не адскочыў... Ля вакна знаходзіўся маленькі столік, на якім гарэла лямпа, і ў яе сьвятле выразна бачыў твар Фэлі... Падпёршы галаву рукамі, чытала кніжку. Пры сьвятле лямпы яе твар здаваўся чароўным -- я ня мог адарваць свайго позірку... Перагарнула старонку... зноў чытае... Праз хвіліну на твары зьявілася вясёлая ўсьмешка. Вочы зьмяніліся і зазьзялі, нібыта каштоўныя каменьчыкі. У іх была дзівосная глыбіня, адтуль вылятalі цёплыя праменьні, што і мяне напоўнілі радасьцю... Ухапіла зубамі ніжнюю вусначку і з хвіліну так яе трымала... Потым усьмешка знікла. Твар стаў халодным, амаль суровым. Але гэты холад пёк мяне як агнём, прыцягваў да сябе. Гатовы быў так стаяць, любавацца яе выглядам, аднак баяўся, каб мяне не заўважылі з вуліцы.

Пацiху адышоўшы ад ва[illegible], спыніўся пасярод дзядзі[illegible]. Доўга вагаўся, пасьля рашу[illegible] крокам накіраваўся да дзьвярэй. Узяўся за клямку. Гэта працягвалася з хвіліну. Потым павольна падаўся да брамы, доўга, знерухомелы, стаяў на вуліцы. Вузкі серп мала[illegible] плыў па небе. Зоркі сьвяці[illegible]на. Пахла ноччу, Вялікая Мядзьведзіца была асабліва прыгожай.

Адчуваў: не змагу адысьці адсюль, павінен убачыць Фэлю, пачуць яе голас, штосьці сказаць ёй... Нешта вельмі значнае!

Зноў пакрочыў да хаты. Паварушыў клямку ў дзьвярах. Замкнуты. Раптоўнае жаданьне: магу яшчэ адысьці!.. Бо што ёй скажу?.. Але мімаволі набліжаўся да вакна. Да таго вакна, у якое летась увосень стукаў, калі прынёс на сабе Сашку Вэбліна... Стукаю ў шыбіну. Ведаю, раблю гэта занадта моцна. Аднак, невядома чаму, пачынаю стукаць яшчэ грамчэй, упарцей.

Хутка чую ў пакоі пасьпешлівыя крокі, пасьля за вакном загучаў голас Фэлі:

-- Хто гэта?.. Што здарылася?..

-- Я.

-- Хто "я"?

-- Уладак.

-- Ула-дак?!. Зараз...

Зноў чую яе крокі. Ідзе ў свой пакой. Потым выходзіць у залу зь лямпай у руках. Ставіць яе на стол і хуценька ідзе ў сенцы.

Рыпіць засаўка. Я адчыняю дзьверы. Уваходжу ў сенцы, пасьля ў пакой. Забываюся прывітацца з Фэляй. Стаю ля дзьвярэй і гляджу ёй у вочы.

-- Што з панам?

Нейкі час маўчу. Фэля заўжды адзін на адзін казала мне "ты", а зараз "пан"! Пасьля кажу:

-- Што?.. Са мной нічога!

Бачу ў яе вачах зьдзіўленьне.

-- Я падумала, нешта здарылася!.. Пан неяк выглядае... -- не даказала.

-- Хацеў запытацца: дзе Сашка? Думаў -- можа, у хаце?

Дзяўчына хвіліну глядзіць мне ў вочы, потым кажа:

-- Та-а-ак? Пан думаў?..

Адчуваю, як усё мацней чырванею. Хачу гэта спыніць і не магу. А яе вочы раптоўна пачынаюць сьмяяцца.

-- Дык пан Уладак, - вымавіла маё імя мякка, амаль пяшчотна, -- прыйшоў запытацца пра Сашку. Так?

-- Так.

-- А мной пан зусім не цікавіцца?

-- Увогуле і паняй таксама.

-- І мной таксама?

Яе вочы блішчаць усё весялей. А мне робіцца страшна горача. "Чаго я сюды прылез? Яна ж відавочна сьмяецца зь мяне!" Аднак, ня ведаючы чаму, кажу далей:

-- Так... Паняй таксама... Бо пані казала тады... у нядзелю...

-- Слухаю, слухаю!

-- ...Казала пані... -- І я ўсё з гэтым "пані"! -- Каб прыйшоў як-небудзь..

-- Ага! Так, так... памятаю! Памятаю!.. Ну, і пан Уладак знайшоў вольную хвілінку...

-- Уласна.

--...І прыйшоў сабе ў адведкі...

-- Уласна.

-- ...уначы...

-- Так.

-- А для настрою пан Уладак крыху сабе выпіў! Што?

"Выразна кпіць зь мяне!" Пачынае ахопліваць злосьць. Адчуваю, што гэтымі пытаньнямі прыціснуты да сьцяны. Кажу ёй холадна:

-- Заўсёды сабе выпіваю. Мне на гэта хапае!

-- А як жа! Пан Уладак хлопец фартовы...

Нешта хачу вымавіць, аднак Фэля рухам рукі стрымлівае мяне і працягвае далей:

-- ...А ці пан Уладак заўжды так: як крыху сабе вып'е, дык ідзе да знаёмых дзяўчат?

Нечакана адчуваю: губляю над сабой панаваньне. Пачынаю гаварыць. Хачу затрымацца і не магу. Кажу штораз з большым запалам.

-- А гэта панну Фэліцыю так хвалюе, дзе хаджу па начах? Я ж не пільную, куды панна Фэліцыя ідзе пасьля выпіўкі. І хлопчыкаў таксама не рахую!

-- Ну? -- Фэля падпіраецца адной рукой у бок. -- А гэта вельмі прыемна! Вельмі!

-- Дзякую за прызнаньне! А што да клопатаў, якія прынёс панне Фэліцыі, дык сардэчна прашу прабачэньня...

-- Калі ласка.

-- Пані мяне перабівае!

-- Выбачайце...

-- Калі ласка... Дык прабачце, увогуле магу больш ніколі панну Фэліцыю не турбаваць сваім таварыствам.

-- А гэта, як пану лепей...

Гляджу ў яе твар -- халодны, спакойны, амаль мёртвы і такі цудоўны. Раптам прыкмячаю на яе лбе доўгую вертыкальную маршчыну. За хвіліну да гэтага зморшчыны не было. "Што яна мне нагадвае?.. Ага! яе мае Сашка!"

-- Дабранач пані!

-- Добрай ночы пану!

Паварочваюся на мёсцы і ўпэўненымі, хуткімі крокамі выходжу з хаты. На падворку затрымліваюся, адчуваю, як хваля горычы залівае мне душу: "Навошта ўсё гэта казаў? Навошта? Яна спачатку была ў такім добрым настроі. Ніколі ня бачыў у яе такіх радасных праменістых вачэй! Відавочна ж -- жартавала, а я пакрыўдзіўся! Навошта? Чаго?.. Што зараз рабіць?.. Ісьці і прасіць прабачэньня ў яе?.. Не, не магу... Нізашто на сьвеце не зрабіў бы гэтага!.. Нізашто!"

Узіраюся ў асьветленыя вокны хаты. Бачу постаць, якая рухаецца па пакоі. На вокны падае рухомы цень. Пасьля чую, як адчыняюцца дзьверы ў сенцы. Пасьля... рэжа мне сэрца скрыгатаньне засоўкі. Хутка ў хаце зрабілася цёмна.

Павольна абыходжу будынак. З сэрцам, якое грукоча ў грудзях, пракрадаюся да таго ж вакна. Зноў гляджу праз шчыліну паміж фіранкаю і падваконнікам.

Фэля сядзіць пры століку. Даланёй левай рукі прыціскае раскрытую кнігу, а правай, сціснутай у кулак, стукае па стале. Твар у яе халодны. Вочы панурыя. Гэтак трывае доўга. Потым дзяўчына нахіляецца над кніжкай і пачынае чытаць... Неспадзявана ляснула, закрываючы кніжку, і адкінулася на сьпінку крэсла. Далоні паклала на край століка.

Неадрыўна гляджу ў яе твар, у яе вочы, і мяне ахоплівае шкадаваньне... Пачынаю грызьці вусны. Тады [illegible]шы погляды сустракаюцца[illegible] Але ж ня можа бачыць мяне тут з асьветленага пакоя! А можа, адчувае мой позірк?" Бачу, што на лбе ў яе зноў зьяўляецца доўгая вертыкальная складка, а вочы набіраюць драпежны выгляд... Хачу адскочыць[illegible] У тую хвіліну Фэля хуткім р[illegible]м рукі адхінае набок фіранку. Адначасова я нахіляюся і, схаваны ценем ад хаты, крадуся ўбок. Раблю некалькі скокаў у глыб агарода, а пасьля набліжаюся да плота і прысядаю каля яго ў нейкае зельле.

Вакно адчыняецца. У яго асьветленым прастакутніку, нібы ў раме, бачу постаць дзяўчыны. Яна нахіляецца ўперад з жаданьнем зазірнуць перад сабой у цемру. Прыслухоўваецца. Доўга не кранаецца зь месца...

Пасьля вакно замкнулі, а яшчэ праз хвіліну загасілі лямпу.

Падняўся. Доўга стаяў бяз руху. Месяц пнуўся ўвышыню. Сьпяшаючыся, нырaў у хмары. Зоркі пазіралі спакойна і ясна. Вялікі Воз без перадыху нёсься на захад.

Я пералез праз паркан і пакрочыў вузкім завулкам. Было досыць відна. Мінакоў не сустракаў увогуле. Калі падыходзіў да Мінскай вуліцы, убачыў групу людзей, якія ішлі насустрач. Голасна размаўлялі і сьмяяліся. Напэўна, былі п'яныя. Калі падышоў да іх бліжэй, адрозніў голас Альфрэда. Хацеў падацца назад, але ўбачыў, што ўгледзелі мяне, таму пакрочыў наперад.

Калі наблізіўся да іх, пазнаў братоў: Альфрэда, Альфонса і Альбіна Алінчукоў. Да камплекту неставала Адольфа і Амброжыка.

Быў у некалькіх кроках ад іх; жадаючы абмінуць, сышоў з дарогі. Яны таксама падаліся ўбок, стараючыся заступіць мне шлях. Тады я накіраваўся ўправа. Яны таксама рушылі ўправа. Альфрэд хістаўся на нагах і, прыгаворваючы, сьмяяўся:

-- А... Маем фраера!.. Фэлін... -- вымавіў некалькі непрыстойных выразаў.

Я адчуў, як кроў прыліла мне да твару, але нічога не адказаў і хацеў іх абысьці. Тады Альфонс падставіў мне нагу, а Альфрэд заскочыў наперад.

-- Чаго хочаш? -- зьвярнуўся я да таго.

-- Падкуць табе морду, жлоб! -- адказаў Альфрэд.

-- Што ты зь ім размаўляеш? Валі яго! -- крыкнуў Альфонс і замахнуўся кулаком.

У той жа момант я моцна выцяў яго нагой у жывот. Альфонс енкнуў і, скурчыўшыся, абсеў на зямлю. Тады Альфрэд і Альбін кінуліся да мяне. Зьбілі з ног. Я выхапіў з кішэні рэвальвер, рукаятку якога даўно трымаў у далані. Альфрэд душыў мяне за горла. Прыціснуў ствол да яго бядра і націснуў на курок. Выбухнуў стрэл. Альфрэд падскочыў угару, але адразу апаў на зямлю. Я ўсхапіўся і пачаў нагамі таўчы Альфрэда. Тады Альбін адбег убок і закрычаў:

-- Паліцыя!.. Паліцыя! Забіваюць!.. Паліцыя!..

Я пакінуў Альфрэда і Альфонса на зямлі і сьпяшаючыся пайшоў назад. Альбін зводдаль рухаўся сьледам. Я зрабіў некалькі крокаў у яго бок і стрэліў угару з нагана... Потым без перашкоды падаўся вуліцай у кірунку жыдоўскіх могілак. Ззаду чуў крыкі:

-- Паліцыя!.. Забіваюць!.. Паліцыя!..

-- Тры-ы-ымайце яго!

Недзе ўдалечыні рэзануў свісток.

Я не пайшоў дахаты, а накіраваўся ў поле. Потым, абыходзячы навокал мястэчка, дабраўся да будынка, дзе жыў Шчур. Адшукаў яго ў хляве. Спаў. Разбудзіў і расказаў пра сутычку з Алінчукамі.

-- Што зараз рабіць? -- запытаўся ў яго.

-- Даў ім перцу панюхаць. Правучыў хамаў! Але зараз з табой цяжэй!.. Заявяць у паліцыю!

-- А калі я сам пайду ў камісарыят і раскажу, як яны напалі на мяне?

-- Ты што, звар'яцеў?.. У цябе няма сьведкаў!.. Атрымаеш і за зброю, і за падстрэл!.. Пасядзіш з год пад сьледствам! Я гэта ведаю!

-- Дык што рабіць?

-- Пакуль што трэба схавацца, а пасьля паглядзім. Невядома яшчэ куды пацэліў Альфрэду.

-- Валіў у нагу!

-- Страляў у нагу, а трапіць мог у бруха! Я раніцай пайду выведаю, а цябе схаваю ў гумне... Ведаю такое месца... тут блізка. Там можаш і год адседзець. Ніхто цябе ня знойдзе.

Адразу падаліся ў дарогу. У адным месцы на ўскрайку мястэчка падышлі да вялікага гумна. Яно было зачынена на цяжкую завалу. Адклаўшы набок дошку, залезлі праз дзюрку пад варотамі. Пасьля засунулі назад дошку.

Тут было цёпла і ціха. Панаваў змрок. Гумно было шырокае. Я ўбачыў шмат розных закаморкаў.

-- Батальён салдат схаваецца. А цябе тут і сам д'ябал ня знойдзе. Толькі нікуды адсюль не выходзь.

Шчур пакінуў мяне ў гумне, а сам накіраваўся ў мястэчка. Праз гадзіну вярнуўся. Прынёс сотню папярос, бутэльку сьпірту, некалькі пляшак вады і шмат харчоў... Я залез на сена і там з дапамогай Шчура зрабіў глыбокую нару. Пасьля Шчур, паабяцаўшы адведаць мяне ўвечары, пайшоў.

Я залез у нару і заснуў.

### 10

Мінула два тыдні. Стаіць палова верасьня. Пачаўся залаты сезон. Граніца ажыла. Перамытнікі працуюць зацята. Ёсьць групы, якія ходзяць па тры разы на тыдзень. Увесь гэты час я хаваюся ў гумне. Дні праводжу адзін, шмат сплю. А вечарамі і начамі раблю паходы ў мястэчка, стараюся быць непазнаным.

Назаўтра ж пасьля здарэньня даведаўся ад Шчура, што Алінчукі заявілі ў паліцыю, нібыта я напаў на іх на вуліцы і параніў Альфрэда. Рана ў яго лёгкая -- прастрэлена левае бядро. Костка цэлая. Акрамя таго ўдарам нагі выбіў яму некалькі пярэдніх зубоў.

-- Паставіць залатыя. Добрая нагода! -- са сьмехам вымавіў Шчур.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—48.

## НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ



**У Беларускай акадэміі музыкі адбыўся аўтарскі канцэрт камернай музыкі, прысвечаны 25-годдзю творчай дзейнасці кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Рыгора СУРУСА (на здымку ў цэнтры).**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

*З ПРЭЗЕНТАЦЫІ НОВАЙ КНІГІ*

# СКАРБЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА ВЯРТАЮЦЦА НА РАДЗІМУ

Напрыканцы лістапада ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя зборніка артыкулаў, дакументаў і архіўных матэрыялаў па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Беларусі. "Вяртанне-ІІ" -- другая кніга ў гэтай серыі. На прэзентацыі выступілі старшыня праўлення Беларускага фонду культуры Іван Чыгрынаў, дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс, іншыя навукоўцы.

Так сталася, што Беларусь, краіна з тысячагадовымі культурнымі традыцыямі, сёння пазбаўлена многіх святых для яе народа рэліквій. На працягу стагоддзяў з яе вывозілі ўсё, што можна і няможна, што патрэбна і што не вельмі, а іншае дык і наогул бязлітасна знішчалася. На абшарах Еўропы -- у Варшаве, Парыжы, Берліне, Галічы, Бельзе, Перамышлі, іншых гарадах -- паўсюль знаходзіцца наша расцяганае нацыянальнае багацце. Але асабліва шмат такіх скарбаў у розных сховішчах гарадоў Расіі.

Кніга "Вяртанне-ІІ" -- вынік сумеснай працы Беларускага фонду культуры, Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, Нацыянальнай бібліятэкі, Камітэта па архівах і справаводству, Навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Самае адметнае ў патрыятычнай справе шматлікіх беларускіх навукоўцаў і даследчыкаў тое, што такім чынам яны складаюць своеасаблівы інфармацыйны банк даных, дзе ў свеце захоўваюцца скарбы беларускага народа. Праблемы вяртання нацыянальных каштоўнасцей вымагаюць самаахвярнай працы грамадскасці і пільнай увагі з боку дзяржавы. Але, як зазначыў старшыня камісіі "Вяртанне" спадар Мальдзіс, на сённяшні дзень у Беларусі практычна не існуе ні дзяржаўнай камісіі, ні дзяржаўнай мясцовай структуры, якая б займалася гэтай праблемай. Цікава, што аналагічныя дзяржаўныя структуры існуюць амаль у кожнай еўрапейскай краіне. Напрыклад, на Украіне створаны спецыяльны камітэт пры Савеце Міністраў, у Расіі -- пры Міністэрстве культуры, у Францыі -- пры Міністэрстве замежных спраў, у Германіі -- ведамства пры канцлеры і г.д. У Беларусі ж дагэтуль справа вяртання гісторыка-культурных каштоўнасцей застаецца прывілеяй энтузіястаў-навукоўцаў ледзь не на грамадскіх пачатках. А таму зразумела, чаму асобныя артыкулы міжнароднага права, якія маглі б прыспешыць вяртанне асобных экспанатаў, не выкарыстоўваліся: да нядаўняга часу пра іх проста ніхто не ведаў. Тым не менш, справа пачал... і першыя каштоўнасці ўжо вярнуліс... еларусь. У першую чаргу, гэта археалагічная калекцыя з 9,5 тысячы экспанатаў, якая знаходзілася ў Санкт-Пецярбургу. Зусім нядаўна прэзідэнт Украіны спадар Кучма падчас свайго візіту ў Беларусь вярнуў унікальны абраз, які памылкова з Германіі трапіў некалі на Украіну. Вядомы фінскі мастак Ахола-Вало, лёс якога цесна звязаны з Беларуссю, прэзентаваў свой аўтапартрэт і свае літаграфіі Скарынаўскаму цэнтру. Зараз мастак мае намер наладзіць у Мінску выставу сваіх, напісаных ім у Беларусі ў 20-я гады твораў, якія потым будуць падараваны беларускай дзяржаве. Шмат для вяртання каштоўнасцей зрабіў Анджэй Цеханавецкі з Вялікабрытаніі.

Зроблены першыя крокі ў пашырэнні ведаў у глыбокую даўніну нашага народа і яго найноўшую гісторыю. Але значна больш працы наперадзе. Найактуальнейшай праблемай сёння падаецца распрацоўка і падпісанне міжурадавых пагадненняў, якія б сталі прававым падмуркам для вырашэння гэтых складаных і набалелых задач. Абнадзейвае, што шэраг пагадненняў з Польшчай, Літвой, Германіяй, краінамі СНД, Чэхіяй, Славакіяй, ЗША ўжо падпісаны ці рыхтуюцца да падпісання. Большасць дакументаў у кнізе друкуецца ўпершыню. "Вяртанне-ІІ" мае шэсць раздзелаў, тры з якіх новыя: "З друкаваных крыніц", "Вернутыя каштоўнасці", "Перапіска і каментарыі да яе".

Распачалася праца над наступным зборнікам "Вяртанне-ІІІ". Хочацца верыць, што агульнымі намаганнямі і аб'яднанымі сіламі вернуцца на радзіму раскіданыя па свеце кнігазборы Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Храптовічаў і нарэшце з'явіцца ў Беларусі калекцыя Скарынавых выданняў, іншыя скарбы нашага народа. Гэта дасць магчымасць нашчадкам з цікаўнасцю прачытаць і асэнсаваць створанае на працягу стагоддзяў іх папярэднікамі, надасць ім пачуццё годнасці за слынных сыноў зямлі беларускай.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# МАРА АБ ЗАСЛАЎІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

З канца XI -- на пачатку XII стагоддзяў горад стаў цэнтрам Ізяслаўскага княства. У ім развіваліся рамёствы і промыслы, быў наладжаны гандаль. Але ў другой палове XIII стагоддзя горад быў спалены і амаль два стагоддзі знаходзіўся ў заняпадзе. Верагодна, з другой паловы XIII стагоддзя Заслаўе ўваходзіць у склад Вялікага Княства Літоўскага, а з XIV стагоддзя становіцца ўласнасцю князёў Заслаўскіх, нашчадкаў князя Яўнуты Гедымінавіча.

З канца XV стагоддзя пачынаецца новы росквіт Заслаўя. У XVI стагоддзі горад пераходзіць да Глябовічаў. У гэты час у Заслаўі была друкарня, выраблялася папера, была наладжана вытворчасць кафлі, пашыраўся гандаль. Гэты перыяд жыцця горада звязаны з імем беларускага мысліцеля і рэлігійнага рэфарматара Сымона Буднага. Каб быць бліжэй да месца выдання Новага Запавету (яго пераклад на польскую мову ён скончыў у 1570 годзе), Сымон Будны ў 1751 годзе пераязджае ў Заслаўе, дзе піша прадмову да гэтага выдання. Ён жыве ў Заслаўі да 1573 года і, акрамя падрыхтоўкі да выдання Новага Запавету, працуе там над філасофска-рэлігійным творам "Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры", напісанне якога, паводле найноўшых даследаванняў, было замоўлена яму заслаўскай кальвінскай суполкай. Сымон Будны быў уласна знаёмы з Янам Глябовічам, тагачасным уладальнікам Заслаўя, якому нават прысвяціў адзін з сваіх твораў. Спецыяльна для Сымона Буднага Ян Глябовіч будуе Кальвінскі збор.

У XVII стаго...дзі Заслаўем валодалі Сапегі, якія ... улавалі сябе "графамі Быхав... мі і Заслаўскімі". Казімірам Янам Сапегам заснаваны дамініканскі кляштар, да якога перайшоў касцёл Міхаіла Архангела (у XIX стагоддзі перабудаваны ў праваслаўную царкву).

На пачатку ... стагоддзя Заслаўе ў якасці ...лада (потым ва ўласнасць) пераходзіць да князёў Пшэздзецкіх. Антоні Пшэздзецкі першым з уладальнікаў Заслаўя абраў яго асноўнай сваёй рэзідэнцыяй і праявіў сябе як добры арганізатар. Праведзеныя ім гаспадарчыя рэформы і прынятыя новаўвядзенні вельмі ажывілі жыццё горада.

У 1770-я гады драўляны касцёл Дзевы Марыі быў перабудаваны ў мураваны. Архітэктарам гэтага фарнага касцёла, мяркуецца, быў знаны Карл Спампані, які працаваў шмат у якіх гарадах і мястэчках Беларусі, у тым ліку ў Нясвіжы і Вільні. Спампані пабудаваў за горадам палац, які планаваўся зрабіць галоўнай рэзідэнцыяй Пшэздзецкіх. Цяпер, на жаль, невядома, як выглядала тая рэзідэнцыя, бо яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя яна была знішчана (захавацца флігель).

З 1793 года знаходзячыся ў складзе Расійскай імперыі, Заслаўе паступовa прыходзіць у заняпад. Мяняліся ўладальнікі, але іх дзейнасць не ўплывала станоўча на аблічча горада.

Цяпер Заслаўе разам з агульнавядомымі гарадамі-помнікамі Беларусі ўваходзіць у спіс ЮНЕСКА з дзесяці найбольш каштоўных у гісторыка-культурным сэнсе гарадоў Беларусі. Яго мінулае цікавіць многіх даследчыкаў, і не толькі ў нашай краіне. Пачынаючы з XIX стагоддзя ў Заслаўі праводзіліся навуковыя даследаванні. У наш час гістарычнае мінулае Заслаўя становіцца ўсё больш вядомым дзякуючы самаахвярнай працы беларускага археолага і гісторыка, аўтара шматлікіх кніг і энцыклапедычных артыкулаў Юрыя Зайца, археолага, доктара навук Георгія Штыхава і іншых навукоўцаў.

У Заслаўі створаны гісторыка-культурны запаведнік, які ўключае ў сябе старажытныя помнікі, што захаваліся да нашага часу. Сярод экспанатаў музея-запаведніка побач з гістарычнымі рарытэтамі -- дзейны паравы млын, драўляныя пабудовы XIX стагоддзя, у якіх можна бачыць мэблю, дэкор, прылады і побытавыя рэчы тых часоў у іх "натуральным" асяроддзі. Апынуўшыся там, трапляеш у мінулае стагоддзе, нават насценны гадзіннік нібыта адбівае пазачаснасць... Супрацоўнікі запаведніка робяць амаль што немагчымае па стварэнню і падтрыманню "музея пад адкрытым небам".

Да святкавання 1010-годдзя Заслаўя супрацоўнікі запаведніка прымеркавалі правядзенне Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Гісторыя і культура Заслаўя ў святле агульнанацыянальных праблем". З 9 па 11 лістапада вядомыя беларускія навукоўцы -- гісторыкі і археолагі, мастацтвазнаўцы і супрацоўнікі музеяў, святары і мастакі -- распавядалі пра незлічоныя каштоўнасці, што схаваны ў старажытнай зямлі беларускай. Каштоўнасці не толькі археалагічнага паходжання: сама гісторыя нашай зямлі, падзеі, што на ёй адбываліся, людзі, што яе насялялі, -- гэтыя нашы каштоўнасці, без перабольшання, сусветнага кшталту. І цікавасць да нашай гісторыі, да краіны, што дала свету выдатных асветнікаў, паэтаў, кампазітараў, мастакоў, захапленне нават самой прыродай ее, па ўласным вопыце ведаю, велізарныя. Турысты з усяго свету з задавальненнем наведвалі б нашу краіну, але гэтая інфраструктура на Беларусі, на жаль, практычна не існуе. Знаходзяцца ў заняпадзе помнікі, не распрацаваны маршруты, няма гатэляў сусветнага ўзроўню гасціннасці. Ды што ўсё гэта -- у нас няма нават гістарычнай памяці народа, агульнага пачуцця гордасці за свой край і за сваё паходжанне. І каб не самаахвярнасць рупліўцаў адраджэння нашай культуры, каб не іх захапленасць у Беларусь, сёння мы ўжо не мелі б нават таго, што дагэтуль захавалася.

На канферэнцыі, у якой узялі ўдзел такія знаныя навукоўцы, як Адам Мальдзіс, Юры Заяц і іншыя, прагучалі і канкрэтныя прапановы па стварэнню беларускага турыстычнага бізнесу; праблемы захавання і існавання культурнай спадчыны, у якіх, як у люстэрку, адбіваюцца агульнанацыянальныя праблемы, былі прадметам абмеркавання за "круглым сталом". Гэтыя праблемы выкладзены ў Звароце ўдзельнікаў канферэнцыі да ўрада рэспублікі. Вельмі хацелася б спадзявацца, што гэты дакумент прыцягне ўвагу ўладаў і праблемы, ад вырашэння якіх залежыць, між іншым, і энамічная будучыня Беларусі, не апынуцца ў разрадзе неперашрадных.

Канферэнцыя закончылася надзвычай цікавай выставай "Мара аб Заслаўі". Стваральнікі яе, супрацоўнікі запаведніка Алена Краснова і Наталля Стрыбульская ў нетрадыцыйнай, летуценна-вобразнай форме паведамілі пра жыццё і гісторыю горада. Падчас канферэнцыі адбыўся канцэрт гурта старажытнай музыкі "Крэва" Інстытута этнакасмалогіі. Аўтэнтычная манера выканання, цудоўныя галасы, валоданне інструментамі і дзівосныя імправізацыі, характэрна нацыянальных касцюмаў выклікалі надзвычай гарачую рэакцыю залы.

Наогул, вялікай удзячнасці заслугоўваюць арганізатары гэтай канферэнцыі -- супрацоўнікі Заслаўскага запаведніка Ала Сташкевіч, Вольга Міронычык і іншыя. Грунтоўныя даклады, вострыя праблемы, выдатная арганізацыя, цікавая і разнастайная праграма, якімі вылучалася канферэнцыя, зразумела, заслугоўвалі больш пільнай да яе ўвагі сродкаў масавай інфармацыі.

Але надзея, як вядома, памірае апошняй. Можа, прыйдзе час, калі гістарычныя помнікі дзяржава будзе сапраўды ахоўваць і калі нашы нацыянальныя героі не будуць зваца героямі суседніх дзяржаў. Калі велізарныя лічбы значэнняў пераўтворацца ў тыя ж лічбы спраў, натхнёных такімі простымі і натуральнымі пачуццямі, як дабрыня і сумленнасць. Калі наша ўласная годнасць пераважыць рабскае патрабаванне "хлеба і відовішчаў" і запатрабуе сапраўды высокай культуры.

Толькі вось -- калі?..

**Наталля СОБАЛЕВА.**

# З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ У СЭРЦЫ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Яна прысвячала ім вершы з нагоды розных святаў і дат, высылала свае творы -- друкаваныя і рукапісныя, пасылала часопісы і кніжкі вядомых беларускіх паэтаў і празаікаў. У тыя гады амаль што не было шансаў наведаць родны край, і для многіх Ларыса Антонаўна была, бадай што, адзінай нітачкай, якая звязвала іх з радзімай. Шмат з кім яна ніколі ў жыцці нават не сустракалася, але яны ўсёй душой цягнуліся да яе, з нецярплівасцю чакалі вестачкі з Беларусі, пісалі самі, слалі падарункі. Яны былі ўдзячныя Ларысе Антонаўне за яе ўвагу да іх, за цеплыню і ласку, за духоўную падтрымку. Вось некалькі ўрыўкаў з пісьмаў аднаго з карэспандэнтаў з Аўстраліі -- Міколы Нікана, якія захаваліся ў архіве Л.Геніюш у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі: "Як прыемна, што хаця слоўна -- паміж намі ёсць лучнасць! А для мяне -- тым больш дарагая, што звязаная з Бацькаўшчынай, якая сніцца ніраз. Усё дзесь вандрую. Па знаёмых і не. А потым, як прабуджуся, -- прыпамінаю нядаўна бачанае, якое стаіць, стаіць у вачох. І хацелася б яшчэ раз пабачыць, яшчэ раз перажыць "праўдзівы" сон на Бацькаўшчыне. Але ці будзе магчымасць?.."

Або вось яшчэ: "...Так цешуся, што гэты ліст да Вас пішу. Бо -- вялікая прыемнасць мець з Вамі кантакт, мець магчымасць хаця часткова падзяліцца думкамі, уражаннямі, адудзячыцца за Вашыя мілыя і дарагія для мяне -- і нас -- словы.

Ліст Ваш з 7.3 атрымаў якраз у два тыдні пазней. Шчыра, шчыра дзякую. Прачытаў яго з найбольшаю прыемнасцю -- прачыталі яго і мае -- і з прыемнасцю яшчэ выслухаў, як чытаў сябра. Найшчырэй дзякуем і за верш на прыгожай картачцы з беларускім краявідам. Ён -- як бы частку і Беларусі нам прынёс. Ляжыць цяпер перад вачыма, і стараюся прыпомніць -- дзе і калі нешта падобнае бачыў..."

І зноў: "Перадусім найшчырэйшая падзяка за ліст -- Навагоднюю картачку з жаданнямі, з цудоўным вершам "Братам на чужыне". Чыталі мы яго шмат разоў. Алесь (А.Салавей. -- **Я.К.**) захоплены. Ужо ўмее на памяць -- перапісаў сабе -- дзеля памяткі. Калі ў Вас "снег і мароз", калі "сталі ночы даўгія, ды бушуе мяцеліца каля варот" -- у нас сонца і цёпла; поўна зелені, красак вакруг. Як чэрвень у Вас -- і калісь, у нас. І калі селі за стол у гэты Нованароджаны Дзень -- выпілі чарку за Вас -- і як і Вы для нас -- мы жадалі шчасця для Вас, дарагія! У гэты дзень, за святочным сталом, са сваімі -- прыгадалі і Маці сваю -- Беларусь. Першую. Найважнейшую. І хаця сёння змушаны жыць у другой бацькаўшчыне, якая нас прыгарнула і за сваіх сыноў уважае -- мы ўжо старыя -- Сваёй Бацькаўшчыны ніколі не забудзем...

Атрымаў колькі лістоў ад знаёмых, якія пішуць і да Вас. Шматлікія хацелі б пісаць. Не хочуць, аднак, турбаваць. Але памятаюць, чытаюць, вершы знаюць, падбадзёрваюцца імі..."

Адным са шматлікіх замежных карэспандэнтаў Ларысы Антонаўны быў і таленавіты паэт беларускага замежжа Алесь Салавей. Яго сапраўднае прозвішча Радзюк Альфрэд Васільевіч. Мяркуючы па перапісцы, за мяжой насіў прозвішча Кадняк. Цяжкі і складаны шлях выпаў на долю паэта. Нарадзіўся будучы паэт у 1922 годзе ў вёсцы Крысава на Дзяржыншчыне. Вучыўся ў Мінскім педвучылішчы. У 1937 годзе былі арыштаваны бацькі паэта. Засталося чацвёра дзяцей, старэйшы -- Алесь. Давялося кінуць вучобу і шукаць працу. Працаваў у лагойскай раённай газеце. Вершы пісаць пачаў рана. Першы верш быў надрукаваны ў "Піянеры Беларусі" ў 1937 годзе. Падчас акупацыі друкаваўся ў "Беларускай газеце", "Новым шляху" і іншых выданнях. У 1944 годзе выехаў у Германію, пазней жыў у Аўстрыі, дзе завёў сям'ю. У 1949 годзе разам з сям'ёй пераехаў на сталае жыццё ў Аўстралію.

Першы зборнік вершаў "Мае песні" быў выдадзены ў Рызе ў 1944 годзе. У Аўстрыі ў 1948-м выйшаў зборнік паэзіі "Сіла гневу". Пасля пераезду ў Аўстралію працаваў на фабрыцы, амаль зусім перастаў займацца творчай працай. Вось што пра гэты перыяд жыцця паэта піша яго жонка Зіна Кадняк у пісьме да Ларысы Геніюш: "Лёс нас закінуў у далёкую Аўстралію. Праўда, муж сам з'явіў жаданне паехаць туды. Яго вабіў новы свет, новыя зоры. Яму здавалася, што там ён знойдзе супакой для душы. Але ён моцна памыліўся. Жывучы на кантыненце -- бліжэйшыя адлегласці і прырода лучыла нас з Радзімай. Адчувалася, што ты ня так далёка ад яе. Дыхаем тым жа самым паветрам. У гэтай Аўстрыі, дзе мы жылі апошнія гады, з яе цудоўнымі гарамі знаходзіліся куткі падобныя да Беларусі. Та[illegible] меў яшчэ натхненне і шмат чаго напісаў добрага. Аўстралія ж -- зусім адваротнае, з яе супрацьлежнымі порамі году, з яе халоднымі, пранізваючымі да касцей, сырымі вятрамі ўзімку[illegible]рачымі, знойнымі -- ул[illegible]. Цяжкія пачаткі жыцця на новым месцы, новае неба і зоры больш не вабілі яго..."

На працягу ўсяго жыцця паэт цяжка перажываў адлучанасць ад Радзімы, тужыў па Беларусі. Памёр пры трагічных акалічнасцях 22 студзеня 1978 года. Яго сябра Мікола Крывіч у лютым 1978 года апісваў гэту трагедыю ў пісьме да ўсё той жа Л.Геніюш так: "21-га Алесь з Зінай паехалі ў сваю хату пры моры -- Торкей (назоў мясцовасці). Я павёз матэр'ял на дзверы да шафаў. Гэтага дня я выразаў і навесіў дзверы, а Алесь пачуваў сябе несамавіта (казаў, што меў непаразуменні ў фабрыцы і цяжка працаваў)... 22-га, а гадзіне 10-й, прыехалі нашы супольныя сябры (муж і жонка) на запросіны Алеся і Зіны... Пры стале мы жартавалі, і Алесь расказаў урывак з нейкага апавядання "Выстагнаўся". Пагода была не зусім адпаведная да купання -- крыху халаднавата, але вырашылі купацца. Да мора ад хаты каля 400 метраў. Госці і Зіна жадалі ісці -- прайсціся. Я лічыў, што пасля купання будзе лепш сесці ў аўта, чымся ісці. Алесь быў маёй думкі. Дык я ўзяў аўта, і паехалі з Алесем, а яны пайшлі. Пакуль "пехацінцы" прыйшлі, дык я ўжо накупаўся, але некалькі мінут яшчэ трымаў таварыства Зіне і госці. Алесь і муж госці лічылі, што ім захаладна. З вады я прышоў раней на бераг да Алеся і госця, а неўзабаве прышлі Зіна і госця. Госця "падушыла" Алеся сваім целам і запрапанавала разам з ёй пакупацца, і яны пайшлі, а мы трое засталіся на беразе. Алесь плаваў дагары (на спіне. -- **Я.К.**) нармальна, і нат госця заўважыла, што адплыў задалёка, і паклікала да сябе, бо кепска плавае, дык не зможа памагчы ў выпадку (жарт). Калі Алесь зблізіўся, [illegible]на заўважыла, што ён сіне[illegible], і палічыла, што яму холадна, [illegible]зяла за руку, і ішлі да нас. Яшчэ ў вадзе каля 300 метраў Алесь пачаў слабець. Лічыла, што ён жартуе, але пачала махаць рукой, клікаць нас. Мы таксама палічылі за жарт, але хутка я пабег да іх (метраў 100), і, прыбегшы, выцягнулі з вады зусім на бераг, і я, адчыніўшы вочы Алеся, пазнаў, што ён нежывы, але рабіў штучнае дыханне, памагалі мне іншыя, паклікалі лекара, які і сцвердзіў смерць. Усё гэта трывала некалькі мінут..."

Вось так трагічна скончыў сваё гаротнае жыццё таленавіты паэт. Праз некаторы час яго жонка пісала Ларысе Антонаўне: "Скончыліся ягоныя духовыя мукі... Так і не скончыў ён збіраць усё напісанае ў адну кучу. Нарэшце думаў сабраць усё надрукаванае і ненадрукаванае ў адзін зборнік, сабраць грошы і выдаць. Друк у нас, асабліва кірыліцай, вельмі дарагі. Ды і не спадзяваўся ён так рана адысці ад нас, як не спадзяваліся і мы ўсе. Так і не скончыў..."

Крыху пазней: "У міжчасе збіраю ў кучу Алесеву спадчыну. На жаль, яе не так было шмат, ды ўдабавак да гэтага яшчэ і спаліў колькі недрукаваных рэчаў. Вось два вершы высылаю Вам, калі атрымаеце. "Камэне" ён напісаў, як казаў, (каб) аставіць штосьці пасля свайго адыходу, а верш -- "Мала" -- у адказ на дамаганні сяброў, што заўсёды казалі -- чаму ты нічога не робіш, вось напісаў бы штось..." І яна сабрала ўсё лепшае, што было напісана, і ў 1982 годзе выйшла ў свет яшчэ адна кніга Алеся Салаўя. Жонка зноў жа аб гэтым напісала Ларысе Антонаўне: "Нарэшце выйшла ў свет Алесева спадчына -- "Нятускная краса"... Кніжка выглядае в(ельмі) добра. Мае 370 бачынаў, памерам 22x14 сантыметраў. У кнігу ўвайшлі амаль што ўсе ягоныя вершы і паэмы, з прозы толькі адно кароткае апавяданне..." (Значыць, была і проза! -- **Я.К.**).

У архіве Л.Геніюш (ЦНБ АН Беларусі, Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, ф. N 31) захаваліся толькі два пісьмы Алеся Салаўя ды дзве віншавальныя паштоўкі, падпісаныя псеўданімам Антон Дабрыдзень. Дарэчы, у пісьменніцкіх даведніках, што выйшлі ў апошнія гады ў Беларусі, гэты псеўданім паэта не значыцца. З перапіскі Ларысы Геніюш з жонкай паэта Зінай Кадняк вынікае, што частка яго пісьмаў не дайшла да адрасата, згубілася недзе ў дарозе. Прапануем чытачам "Голасу Радзімы" гэтыя лісты. У іх паэт знаёміў Ларысу Антонаўну са сваёй творчасцю. Цікавыя таксама яго водгукі аб творах нашых вядомых пісьменнікаў.

Акрамя таго, у архіве Л.Геніюш захаваліся арыгіналы двух вершаў паэта, напісаных у 1947 годзе ў Аўстрыі -- "На чыстым аркушы" і "Цемра", а таксама вершы "Камэне" і "Мала", перапісаныя ад рукі і дасланыя Ларысе Антонаўне жонкай Алеся Салаўя. Друкуем з іх верш "Камэне" (камэна -- муза), які не ўвайшоў у вельмі прадстаўнічую падборку паэзіі А.Салаўя, змешчаную ў кнізе "Туга па Радзіме: паэзія беларускай эміграцыі" (Мінск, 1992). Верш гэты гучыць як своеасаблівае паэтычнае завяшчанне.

**Яніна КІСЯЛЁВА,
загадчыца сектара рукапісаў Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН Беларусі.**

*У наступных нумарах "Голасу Радзімы" будуць змешчаны пісьмы Алеся САЛАЎЯ да Ларысы ГЕНІЮШ.*

## АДРАДЖЭННЕ СВЯТЫНІ





**Невялікая вёсачка Тарасава, што паблізу Мінска, некалі лічылася ў акрузе даволі значным населеным пунктам. Многа змянілася тут за мінулыя дзесяцігоддзі: адбілася блізкасць да двухмільённага горада. Змоўклі і званы на сельскай вуліцы -- перастала працаваць мясцовая праваслаўная царква.**

**Жыхары вырашылі адрадзіць страчаныя традыцыі сваёй вёскі. Параіўшыся, папрасілі дапамогі ў будаўнічых арганізацый і пабудавалі невялікую царкву. У вёсцы пачаў дзейнічаць адроджаны праваслаўны прыход.**

**Неўзабаве, згодна з задумай жыхароў, на ўскраіне Тарасава пачнецца ўзвядзенне новага вялікага праваслаўнага храма і прасторнай агульнаадукацыйнай школы.**

**Месца будучага будаўніцтва асвяціў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. З жыхарамі Тарасава сустрэліся аўтары праекта.**

**НА ЗДЫМКАХ:** асвячэнне крыжа на месцы будучага храма; Мітрапаліта **ФІЛАРЭТА** сустракалі і стары і малы; аўтары праекта новага храма канструктар **М. САЛАВЕЙ**, архітэктар **Л. ШУЛАЕЎ**, мастак **В. МІЦІЧКІН**.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



